

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 4 (красавік), 2014

# Мяжа




**Памяць пра ахвяраў Чарнобыля: на ўскраінах і кожны пра сваё**

(старонка 13)

# ЗЬМЕСТ

# Брэсцкая пракуратура вынесла папярэджанне незалежнаму журналісту

Яўгена Скрабца праінфармавалі аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб медыях.

Адпаведнае рашэнне ў дачыненні сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў прыняла пракуратура Брэста. Як паведаміў Еўрарадыё Яўген Скрабец, нагодай для папярэджання стала публікацыя журналіста "Берасцейцы вырашылі ствараць ва ўладзе лобі", якая паўтары месяцы таму з'явілася на сайце Радыё Рацыя. Гутарка ў матэрыяле ішла пра грамадскія абмеркаванні па захаванні рэштак старога гораду.

Скрабец: "Менавіта чым іх не задаволіла гэтая публікацыя, пракурор мне не сказаў. Адзінае што ён мне паведаміў, што факт аб вось гэтай публікацыі выяўлены прадстаўнікамі КДБ Брэсцкай вобласці і пазней накіраваны ў пракуратуру".

Сам дакумент Яўгену Скрабцу не выдалі. Яму давялося напісаць заяву з просьбай выдаць копію, каб мець магчымасць пазней абскардзіць рашэнне. Азнаёміцца з матэрыяламі справы ён зможа цягам 15 дзён.

*http://euroradio.fm/bresckaya-prakuratura-vynesla-papyaredzhanne-nezalezhnamu-zhurnalistu*

# Бярозаўскія актывісты павіншавалі палітвязняў са святам




Бярозаўскія грамадскія актывісты не забылі павіншаваць палітычных вязняў з Вялікаднем. Яны накіравалі лісты і паштоўкі з найлепшымі пажаданнямі, кажа сябра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ **Андрэй Кавалевіч**:

- *Жадаем шчасця, здароўя і хутчэйшага выхаду на волю. Каб паспяхова перамаглі ўсе тыя цяжкасці, якія яны там перажываюць, і хутчэй былі б на волі. Паштоўкі, якія мы ім*

*дасылаем з віншаваннямі з нагоды Вялікадня, - гэта наша своеасаблівая падтрымка, хаця б маральная.*

Па словах Кавалевіча, гэта хаця б штосьці, што актывісты могуць зрабіць у падтрымку палітычных зняволеных. Паколькі нялёгка людзям тут на волі, а ім непараўнальна цяжэй.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=23715#.U1Fbiudb_xh*

## Брэст: міліцыя спыніла справу па факце распаўсюду рашэння Камітэта па правах чалавека ААН

Гэта рашэнне датычыцца справы Уладзіслава Кавалёва - аднаго з расстраляных два гады таму па абвінавачанні ў здзяйсненні тэракту ў мінскім метро.

Нагадаем, што 14 сакавіка ў цэнтры Брэста праваабаронца Раман Кісляк разам з актывістам Зміцерам Рабцэвічам распаўсюдзілі сярод мінакоў 16 брашур з тэкстам рашэння Камітэта ААН на рускай мове. Такім чынам актывісты хацелі прыцягнуць увагу грамадскасці да дадзенага рашэння напярэдадні гадавіны расстрэлу Кавалёва.

Падчас распаўсюду матэрыялаў да праваабаронцы Рамана Кісляка падыходзіў супрацоўнік міліцыі і патрабаваў спыніць акцыю, а 18 сакавіка паводле факту распаўсюду матэрыялаў Кісляк быў дапытаны ўчастковым інспектарам.

31 сакавіка з Ленінскага РАУС Брэста быў дасланы афіцыйны ліст, з якога вынікае, што падчас праверкі не быў устаноўлены склад праваапарушэння ў дзеяннях Кісляка і Рабцэвіча паводле часткі 2 артыкула 22.9 КаАП і на гэтай падставе вынесена пастанова аб спыненні адміністрацыйнай справы.

Скарга маці Уладзіслава Кавалёва і яго сястры Таццяны Козяр была зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН 15 снежня 2011 года, а разгледжана 29 кастрычніка 2012 года. Камітэт устанавіў, што беларуская дзяржава парушыла права на жыццё Уладзіслава Кавалёва. Гэты міжнародны орган таксама прызнаў,

што ў дадзенай справе быў дапушчаны шэраг парушэнняў палажэнняў Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Акрамя таго, у рашэнні Камітэта гаворыцца, што суд не быў незалежным, а таксама парушана права на перагляд прысуду вышэйстаячай судовай інстанцыяй. У заключнай частцы рашэння Камітэт заявіў, што неабходна "апублікаваць дадзеныя меркаванні і забяспечыць іх шырокі распаўсюд у дзяржаве-ўдзельніцы на беларускай і рускай мовах".

*http://spring96.org/be/news/70294*

## Бяляцкі атрымаў яшчэ адну прэмію

Палітвязень Алесь Бяляцкі стаў ляўрэатам прэміі швэдзкай праваабарончай арганізацыі Civil Rights Defenders за 2014 год.

«Больш за 30 гадоў Алесь Бяляцкі прысьвяціў бесьперапыннай барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека — спачатку ў СССР, а потым у Беларусі», — адзначаецца ў паведамленьні арганізацыі.

«Алесь ёсьць адным з адзінаццаці беларускіх палітвязьняў. Ён асуджаны да 4,5 году пазбаўленьня волі за ўхіленьне ад выплаты падаткаў у выніку судовага працэсу з выразным палітычным падтэкстам. Ён быў арыштаваны 4 жніўня 2011 году і з тых часоў знаходзіцца ў турме. Кіраўнік вядучай праваабарончай арганізацыі краіны, Алесь Бяляцкі зьяўляецца цэнтральнай фігурай у беларускай грамадзянскай супольнасьці», — адзначаюць у Civil Rights Defenders.

«Судовы працэс па справе Алеся Бяляцкага быў распачаты, нягледзячы на міжнародныя пратэсты і патрабаваньні яго вызваленьня. Перасьлед Алеся быў наўпрост зьвязаны зь яго праваабарончай дзейнасьцю, а прысуд служыць папярэджаньнем для ўсёй беларускай грамадзянскай супольнасьці», — сказаў дырэктар Civil Rights Defenders Робэрт Хорд.

Уручэньне прэміі пройдзе 4 красавіка ў Стакгольме. Бяляцкі знаходзіцца ў турме, таму прэмію атрымаюць яго жонка Натальля Пінчук і калега-праваабаронца Тацяна Равяка.

Прэмія Civil Rights Defenders была заснаваная ў 2013 годзе. Яе грашовае вымярэньне — 50 тысяч еўра.

Раней Алесь Бяляцкі быў уганараваны некалькімі іншымі ўзнагародамі, у тым ліку швэдзкай прэміяй Per Anger, прэміямі імя Андрэя Сахарава і Homo Homini.

*http://www.svaboda.org/content/article/25318672.html*

## Міліцыянты збілі пратэстуючых супраць высялення сям'і з Бярэзы

4 красавіка суд выкінуў сям'ю Якушык на вуліцу з іх уласнага дома.

Пра тое, што правінцыйны і з выгляду ціхі горад Бяроза цягне на званне як мінімум беларускай Сіцыліі, яны распавялі яшчэ ў пачатку сакавіка, піша onliner.by . Паводле пастановы адміністрацыі горада іх старэнькі дом абавязаны пайсці пад знос, а на месцы ўчастка ў 15 сотак у перспектыве павінны вырасці шматпавярховік. Усумніўшыся ў менавіта такім раскладзе спраў і выказаўшы здагадку, што замест чарговай «панэлькі» ў выніку будзе пракладзеная дарога да дамоў мясцовай эліты, Аксана і Вадзім уступілі ў барацьбу супраць вяршкоў горада, а можа, і вобласці.

Аб жудасных падзеях, якія ўчора ўвечары адбыліся з сям'ёй, і пра беззаконне ў горадзе распавяла заплаканая і запалоханая Аксана Якушык праз тэлефон:

- 4-га ў Кобрыне адбыўся суд, паводле пастановы якога ўсю нашу сям'ю зрабілі бамжамі, пазбавіўшы права ўласнасці. Мяне, мужа і дзяцей пакінулі без прапіскі. Прызначылі прымусовы выкуп за дом і ўчастак у памеры 187 мільёнаў. Ацэнку нерухомасці зноў жа правялі, як ім хочацца, а не па законе, і адмовіліся зарэгістраваць гаспадарчыя пабудовы. Таксама адмовілі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

А ўчора вечарам мы з мужам прыехалі на свой участак. Вадзім рамантаваў плот, на якім мы проста напісалі: «Ныркевіч, тут няма

дарогі для тваіх сяброў, за гальштук пара б, а то закон бяссільны». Пасля таго, як скончылі пісаць гэты надпіс, да нашага дому на «Газэлі» пад'ехала міліцыя. Спачатку мы бачылі толькі кіроўцу і ўчастковага, як высветлілася, астатнія хаваліся ў машыне - чакалі патрэбнага моманту. Потым «абаронцы правоў народа», якія ўсе без выключэння былі ў форме, сталі «скручваць» майго мужа.

Я адразу ж пачала ўсё, што адбываецца здымаць на відэа, пыталася, за што яго забіраюць, але праваахоўнікі нічога не адказвалі і працягвалі яго цягнуць. Спрабавалі мы выклікаць міліцыю на міліцыю, але адразу ж пасля звароту на 102 пад'ехала звычайная грамадзянская машына, з якой выйшлі яшчэ два міліцыянты. Аднаго з іх мы ведаем - гэта участковы З-к, які тут жа накінуўся на мяне, штурхнуў з усёй сілы на плот, і вырываў фотаапарат, на які я вяла відэазапіс.

Людзі ў форме пачалі правакаваць майго мужа, каб ён з імі ўступіў у бойку. Вадзім толькі адхіляўся ад іх, ніякага супраціву наогул не аказваў, мы ж ведаем, што гэта за людзі. У выніку мы ўсе былі ў сіняках, і гэта пры тым, што яны ведаюць, як біць, каб не пакідаць слядоў. Адзіны, хто за нас заступіўся, гэта быў сусед, малады хлопец, ён крычаў: «Што вы робіце, навошта вы б'яце жанчыну?!». Яго таксама «паклалі» галавой у пясок, заламалі рукі і пачалі збіваць.

Калі ўсё адбывалася, вакол было вельмі шмат людзей: мінакі, суседзі пачалі здымаць збіццё на тэлефоны, але, заўважыўшы гэта, міліцыя пагналася і за імі. Тыя, зразумелая справа, ўцяклі. Так ніхто больш за нас і не заступіўся, а сусед апынуўся яшчэ адным пацярпелым. Каб спыніць гэтае «пакаранне » і патэлефанаваць на ўсе магчымыя «гарачыя лініі», я паспрабавала хутчэй з'ехаць, але ўчастковы кінуўся за мной і спрабаваў выкінуць з машыны. На шчасце, з'ехаць я ўсё ж такі змагла.

Адразу ж патэлефанавала ў службу даверу горада Берасця. Па нумары 20-08-16 са мной проста па-хамску «пагутарылі», і стала зразумела, што на тым канцы проста абараняюць гонар мундзіра, а

не правы людзей. У лякарні ў прыёмным пакоі дзяжурыў лекар С-н, мы прасілі яго аказаць медыцынскую дапамогу і зняць пабоі, але ён адмовіў: кажа, едзьце ў міліцыю і бярыце накірунак. Але як я магу ўзяць накірунак, калі міліцыя нас і пабіла? Узяла ў бальніцы кнігу заўваг і прапаноў, пакінула запіс і паспрабавала яе сфатаграфаваць, але медыкі з крыкам пачалі адбіраць часопіс.

Мужа да раніцы адпусцілі, але што з тым хлопцам, які за нас заступіўся, я наогул не ведаю. Яго завуць Сяргей Каташэвіч, дзякуй яму вялікі за дапамогу. Але я не ўяўляю, што з ім могуць зрабіць, таму што ён галоўны сведка.

Цяпер мы не ведаем, як нам зняць пабоі і куды звярнуцца, што рабіць... На парозе ўласнага дома ні за што нас жорстка збілі, але ж мы не напісалі нічога абразлівага. Як гаворыцца, на злодзеі шапка гарыць. Цяпер нам проста страшна жыць. Зразумела, што прыбраць нас ім нічога не варта.

*http://charter97.org/be/news/2014/4/6/93296/*

## Пададзеная заяўка на правядзенне «Чарнобыльскага шляху»




Арганізатары просяць гарадскія ўлады дазволіць збор удзельнікаў шэсця 26 красавіка ў 12.00 каля кінатэатра "Кастрычнік".

Арганізатары "Чарнобыльскага шляху" падалі сёння ў Менгарвыканкам заяўку на правядзенне 26 красавіка вулічнай акцыі "Чарнобыльскі шлях" у сувязі з чарговай гадавінай катастрофы на ЧАЭС.

Пра гэта БелаПАН паведаміў старшыня Партыі БНФ Аляксей

Янукевіч.

Паводле яго слоў, пазней будзе пададзеная яшчэ адна заяўка - у Менскі райвыканкам - на правядзенне мітынгу ва ўрочышчы Курапаты.

Нагадаем, у гэтым годзе арганізатары вырашылі змяніць фармат "Чарнобыльскага шляху". Калі раней канчатковым пунктам шэсця быў парк Дружбы Народаў у раёне плошчы Бангалор, то цяпер аргкамітэт плануе правесці шэсце да Курапатаў.

"Мы зыходзім з таго, што сёння стаіць пытанне пра выжыванне беларускай нацыі, што такія найвялікшыя трагедыі, як катастрофа на Чарнобыльскай АЭС і знішчэнне беларусаў у Курапатах, не варта разглядаць паасобку", - так патлумачыў рашэнне аргкамітэта адзін з заяўнікаў акцыі, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

Арганізатары просяць гарадскія ўлады дазволіць збор удзельнікаў шляху ў 12.00 каля кінатэатра "Кастрычнік", шэсце па вуліцах Багдана Хмяльніцкага, Якуба Коласа, Лагойскім тракце да ўрочышча Курапаты, дзе ў 15.00 павінен пачацца мітынг.

Мерапрыемства вырашана правесці пад лозунгам абароны Беларусі ад ядзернай небяспекі з боку Расеі. "Гэтая пагроза зыходзіць і ад будаўніцтва па расейскаму праекту АЭС, і ад магчымага размяшчэння ядзернай зброі на расейскіх самалётах, якія знаходзяцца ў Беларусі", - адзначыў Янукевіч.

Сярод заяўнікаў "Чарнобыльскага шляху" - Янукевіч, лідар аргкамітэта па стварэнні грамадскага аб'яднання "Маладыя хрысціянскія дэмакраты" Марына Хоміч, актывіст руху салідарнасці "Разам" (Чэхія) Ілля Дабратвор.

"Чарнобыльскі шлях" - вулічная акцыя, якую беларуская апазіцыя праводзіць штогод з 1988 года ў Менску ў фармаце шэсця, якое завяршаецца мітынгам прадстаўнікоў дэмакратычных сіл. Выключэнне склаў 2011 год, калі сталічныя ўлады ўпершыню забаранілі шэсце, даўшы дазвол толькі на правядзенне мітынгу.

*http://charter97.org/be/news/2014/4/9/93785/*

## Жыхара Брэста хочуць пакараць за пікет супраць хуткага выканання смяротных прысудаў

Акцыя, у якой браў удзел Дзмітрый Рабцэвіч, адбылася 28 сакавіка, калі ён выйшаў у цэнтр горада з плакатам, на якім было напісана “Не - хуткім расстрэлам” і “Жыццё альбо смерць”.

Актывіст хацеў прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы хуткага выканання смяротных прысудаў у Беларусі пасля ўступлення іх у законную сілу. Дзмітрый Рабцэвіч прастаяў з плакатам літаральна 10 хвілін, пасля чаго да яго падыйшлі супрацоўнікі міліцыі і адвезлі ў РАУС Ленінскага раёна Брэста. Там у затрыманага ўзялі тлумачэнні, канфіскавалі плакат і адпусцілі без складання пратаколу.

Аднак на гэтым тыдні Рабцэвічу патэлефанавалі з міліцыі і выклікалі ў пастарунак, дзе склалі пратакол паводле артыкула 23.34 КаАП за парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў. Як заўважае праваабаронца Раман Кісляк, пратакол складзены такім чынам, што незразумела, якое менавіта правапарушэнне здзейсніў Дзмітрый Рабцэвіч. Сам Кісляк лічыць, што актывіст не парушыў закон, а скарыстаўся правам на свабоднае выказванне свайго меркавання, што прадугледжана Канстытуцыяй і міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах.

*http://spring96.org/be/news/70456*

## Бярозаўскі райвыканкам абавяжуць змяніць сваё рашэнне аб масавых мерапрыемствах

Мінюст і Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў звернуцца ў Бярозаўскі райвыканкам, каб на афіцыйным узроўні ўпарадкаваць пытанне заключэння дамоў з міліцыяй пры падрыхтоўцы да масавых мерапрыемстваў. Як вынікае з адказаў гэтых установаў праваабаронцам Сяргею Русецкаму і Тамары Шчапёткінай, якія звярталіся да іх з адпаведнымі зваротамі,

рашэнне Савета Міністраў РБ № 207 ад 05.03.2012 г. больш важнае, чым рашэнне Бярозаўскага райвыканкама ад 09.02.2010 № 138.

Згодна з Пастановай Саўміна, пасля падачы заявы на масавае мерапрыемства ў выканкам цягам сутак выканаўчы орган улады павінен даслаць копію заявы ў міліцыю для ўзгаднення пытанняў па абслугоўванні мерапрыемства. Разам з тым, у рашэнні Бярозаўскага райвыканкама (як і аналагічных рашэннях выканкамаў у многіх рэгіёнах Беларусі) патрабуецца прадставіць копію дамовы з міліцыяй пры падачы заявы на правядзенне масавага мерапрыемства.

Як паведамілі з Міністэрства юстыцыі за подпісам першага намесніка міністра А.У. Білейчыка і з Брэсцкай абласной управы ўнутраных спраў за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення В.П.Угляніцы, рашэнне райвыканкама павінна быць выпраўлена згодна Пастановы Саўміна.

Раней бярозаўскія праваабаронцы Сяргей Русецкі і Тамара Шчапёткіна не раз у пісьмовай форме звярталіся ў Бярозаўскі райвыканкам з прапановай рашэнне ад 09.02.2010 № 138 прывесці ў адпаведнасць патрабаванням Пастановы Саўміна, але безвынікова. Падчас суду, у якім яны аспрэчвалі забарону пікету, праваабаронцы таксама сканцэнтравалі ўвагу на неадпаведнасць рашэння райвыканкама Пастанове Саўміна, і ў прысутнасці суддзі і памочніка пракурора папрасілі ліквідаваць супярэчнасць. Тадыюрыст райвыканкаму Яўген КаштАлян сказаў, што Саўмін да іх з гэтым пытаннем не звяртаўся. Цяпер да іх звернецца Мінюст і Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў.

Праваабаронцы спадзяюцца, што надалей пры падрыхтоўцы да масавых мерапрыемстваўбольш не будзе праблем у пытанні заключэння дамоў з міліцыяй.

*http://spring96.org/be/news/70455*

# Улады Брэста забаранілі эсдэкам першамайскае шэсце



Адпаведную заяўку ў гарвыканкам падавалі мясцовыя сябры БСДП і Свабоднага прафсаюзу.

Актывісты планавалі прайсціся прайсці па цэнтральных вуліцах горада да плошчы Леніна з сацыяльна-эканамічнымі патрабаваннямі.

Прычынай забароны стала тое, што шэсце супадае з маршрутам і часам дэманстрацыі, якую ладзіць Брэсцкае абласное аб'яднанне прафсаюзаў. Пра гэта Еўрарадыё паведаміў актывіста Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада" Ігар Маслоўскі:

Маслоўскі: "На самой справе нічога не супадае, бо, як мы бачым з сайту гарвыканкаму, калона збіраецца на вуліцы Гогаля і вуліцы Леніна. Мы ж збіраліся ісці ад перасячэння вуліцы Машэрава і бульвару Касманаўтаў: гэта два кіламетры! Да таго часу, як мы бы датуль дайшлі, яны бы ўжо разыйшліся. Мы лічым, што гэта

прамая дыскрымінацыя па палітычных і сацыяльных матывах".

Нагадаем, што летась Брэсцкі гарвыканкам упершыню за 13 год дазволіў незалежную дэмантрацыю на 1 траўня. Каля 200 чалавек прынялі ўдзел у шэсці пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

*http://euroradio.fm/ulady-bresta-zabaranili-esdekam-pershamayskae-shesce*

## Памяць пра ахвяраў Чарнобыля: на ўскраінах і кожны пра сваё




**У Магілёве згадалі ахвяраў чарнобыльскай трагедыі. Афіцыйны мітынг адбыўся ля памятнага знаку «Мужнасьці ліквідатараў Чарнобыльскай катастрофы», што на тэрыторыі былой клінікі прафэсійнай і радыяцыйнай мэдыцыны.**

Да яго чыноўнікі гарвыканкаму і аблвыканкаму, а таксама супрацоўнікі Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, Міністэрства ўнутраных спраў ды надзвычайных сытуацыяў усклалі кветкі.

Актывісты апазыцыйных арганізацыяў правялі сваю жалобную акцыю таксама на ўскрайку гораду — ля крыжа «Ў памяць ахвярам Чарнобыля», што непадалёк ад найбольшых у горадзе Паўднёва-ўсходніх могілак.

На афіцыйным мітынгу большую частку ўдзельнікаў складалі маладыя людзі, якія трымалі транспаранты, сьцягі з жалобнымі

стужкамі. Некаторыя — з шалікамі прадзяржаўнага аб'яднаньня «Белая Русь». Ахвяраў катастрофы згадалі хвілінай маўчаньня. Музычнае суправаджэньне і прамовы выступоўцаў былі парасейску.

Старшыня Магілёўскага гарвыканкаму **Ўладзімер Цумараў** у сваім выступе параўнаў наступствы Чарнобыля для Беларусі з наступствамі Вялікай Айчынай вайны. Паводле чыноўніка, у вайну «нямецкія захопнікі зьнішчылі 618 паселішчаў, а ў выніку Чарнобыля Беларусь страціла 485 населеных пунктаў». Кіраўнік гарадзкой вэртыкалі заявіў: катастрофа «зьмяніла ўклад жыцьця беларусаў, але не зламала людзей».

«Агульныя страты ад катастрофы за трыццацігадовы пэрыяд яе пераадольваньня сёньня ацэньваюцца ў 235 мільярдаў даляраў, што роўна 32 бюджэтам краіны 1985 году», — казаў на мітынгу старшыня гарвыканкаму Ўладзімер Цумараў. Згадаў кіраўнік гарадзкой вэртыкалі і пагрозы, якія нясе атамная энэргетыка:

«Трагедыя Чарнобыля, — зьвяртаўся да грамады **Цумараў**, — урок для ўсяго сьвету. І гэты ўрок чалавецтвам засвоены недастаткова добра. Катастрофа японскай Фукусімы яшчэ раз паказала, што якімі б тэхналёгіямі ні валодала чалавецтва, які б хуткі і моцны ні быў тэхнічны працэс, супраць прыроды чалавек, на жаль, бясьсільны. Прырода неахвотна адкрывае нам свае таямніцы. Кожны раз папярэджваючы, што наступны крок можа быць аплачаны многімі жыцьцямі. Чарнобыль — гэта вечная засечка на памяць».

Пры канцы выступу Ўладзімер Цумараў зазначыў: «Ва ўмовах узрастаючага энэргаспажываньня і пагрозы зьмяншэньня запасаў нафты і газу, якое вядзе да ўзрастаньня канкурэнцыі на рынку энэргарэсурсаў, важнай праблемай становіцца забесьпячэньне энэргетычнай бясьпекі дзяржавы. Будаўніцтва АЭС у нашай краіне — аргумэнтаваная і ўзважаная пазыцыя. Улічаны ўвесь сусьветны досьвед, які сьведчыць, што ў будучыні ядзерная энэргетыка стане асноўным сродкам пераадольваньня глябальнага энэргетычнага крызісу».

Доўжыўся афіцыйны мітынг менш за паўгадзіны.

Прыкладна столькі ж працягвалася ля крыжа памяці акцыя

актывістаў апазыцыі. На яе прыйшло паўтара дзясятка чалавек. Прамоўцы гаварылі пра ўтойваньне ўладай зьвестак пра наступствы Чарнобыля, калі адбылася аварыя. Крытыкавалі дзеяньні цяперашняга кіраўніцтва, якое заяўляе, што забруджаныя тэрыторыі прыдатныя для гаспадараньня і пражываньня.

**Каардынатар гарадзкой кааліцыі дэмакратычных сіл Юры Новікаў** зазначыў, што ў дзяржавы няма сродкаў, каб змагацца з наступствамі Чарнобыля, таму ёй лепей скіраваць высілкі на тое, каб грамадзтва забылася на трагедыю. Спадзявацца ж на замежную дапамогу Беларусі няма як, даводзіў прафсаюзны актывіст, бо беларуская ўлада ў ізаляцыі і ніхто ўкладаць сродкі ў пераадольваньне наступстваў аварыі ня будзе«.

Будаўніцтва атамнай электрастанцыі старшыня абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі **Ўладзімер Шанцаў** назваў новай бядой для Беларусі. Паводле яго, патрэба ў АЭС сумнеўная, асабліва з тым праектам, паводле якога яе зьбіраюцца ўзводзіць. Палітык зазначыў, што шырокай дыскусіі ў беларускім грамадзтве наконт будоўлі АЭС не было: «Дамінуе адно меркаваньне — трэба будаваць, і яно не аспрэчваецца», — казаў Шанцаў. Акрамя таго, даводзіў ён, цяпер адбываецца маніпуляваньне грамадзкай думкай:

«Ад нас хаваюць інфармацыю пра будоўлю АЭС, а за сродкі, якія ідуць на будоўлю, можна было разьвіваць альтэрнатыўныя крыніцы энэргіі. У гэтым выпадку не было б напружанасьці ў грамадзтве адносна бясьпекі для будучых пакаленьняў. Акрамя таго, будуючы станцыю, Беларусь яшчэ больш трапляе ў залежнасьць да Расеі».

Гаварыў **Шанцаў** і пра недапушчальнасьць разьмяшчэньня ў Беларусі расейскіх вайсковых фармаваньняў.

На думку **кіраўніка абласной арганізацыі партыі БНФ Зьмітра Салаўёва**, узьвядзеньне АЭС у Беларусі прывядзе да страты сувэрэнітэту краіны, бо, паводле яго, залежнасьць ад Расеі будзе татальная.

Скончылася жалобная акцыя апазыцыянэраў ускладаньнем кветак да крыжа ды малітвай.

*http://www.svaboda.org/content/article/25363516.html*

# 123 гады з дня нараджэння першага прэм’ера БНР Язэпа Варонкі



Сёння спаўняецца 123 гады з дня нараджэння першага прэм’ера Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпа Варонкі. Палітычны дзеяч, ініцыятар абвяшчэння БНР.

Язэп Варонка нарадзіўся 17 красавіка 1891 года ў Кузніцы, што на Сакольшчыне. У маладым узросце, маючы 27 гадоў, спрычыніўся да стварэння БНР, кажа гісторык Алег Латышонак:

- Гэта быў адзін з людзей, якія найбольш спрычыніліся да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, да абвяшчэння незалежнасці. Ён у вельмі цяжкі час мусіў сфармаваць урад, весці перамовы з немцамі, атрымліваць большыя паўнамоцтвы, каб арганізоўваць беларускае жыццё. Трэба сказаць, што Варонка справіўся з гэтым вельмі добра ўлічваючы тыя абставіны, бо трэба памятаць, што яму было 27 гадоў.

У 1923 годзе Язэп Варонка з’ехаў у ЗША, дзе працягваў беларускую дзейнасць. Выдаваў газету “Беларуская трыбуна”, а таксама заснаваў беларускамоўную радыёпраграму.

Язэп Варонка памёр 4 ліпеня 1952 годзе ў Чыкага.

*http://www.racyja.com/index.php?id=103&zoom=23691#.U1C1Vudb_xh*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»